# КАНДЫДАТЫ Ў ПАСЛЫ СЕЙМА ПНР АД БЕЛАСТОЦКАЙ ВЫБАРЧАЙ АКРУГІ

(ГОРАД БЕЛАСТОК І БЕЛАСТОЦКІ, БЕЛЬСКІ, ГАЙНАЎСКІ, СЯМЯЦІЦКІ І САКОЛЬСКІ ПАВЕТЫ):

Уладзіслаў В'ха — сакратар Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

Яўгенія Красоўская — віцэміністр Міністэрства вышэйшай адукацыі.

Аркадзіюш Лашэвіч — І сакратар Ваяводскага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку.

Тадэвуш Плаўскі — слёсар з Інструментальнай фабрыкі ў Беластоку.

Антон Леўка — селянін з вёскі Пагажалкі, Беластоцкага павета.

Максім Рудчык — селянін з вёскі Волька Нурэцкая, Сямяціцкі павет.

Крыстына Маршалэк-Млынычык — журналіст «Беластоцкай газеты».

Міхал Адамец — селянін з вёскі Сакі, Гайнаўскі павет.

Гэртруда Орляч — намеснік старшыні Ваяводскага праўлення Саюза сялянскай моладзі ў Беластоку.


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 21 (482) | ГОД X | 23 МАЯ 1965 года | ЦАНА 60 гр.


## НАКАЗ ВЫБАРШЧЫКАЎ

Ужо толькі тыдзень да 30 мая, калі пойдзем да выбарчых урнаў аддаваць свае галасы за найлепшых. Цяпер адбываюцца сустрэчы з кандыдатамі ў радныя і ў паслы. Выбаршчыкі ставяць перад імі адказныя наказы, выказваюць пажаданні. Выканаць гэтыя заданні, не падвесці выбаршчыкаў — вось абавязак будучых радных. Як гэтага дабіцца, з чаго павінен распачаць сваю дзейнасць будучы радны.

Пасля выбараў радныя павінны пакласці намаганні, каб найважнейшыя прапановы выбаршчыкаў былі ўключаны ў план працы Рады. А для сябе радны павінен скласці ўласны план выканання наказаў у сваёй акрузе. Гэта практычны компас у яго дзейнасці. Заданне раднага заключаецца ў тым, каб арганізаваць кантроль, паклапаціцца, каб установы, прадпрыемствы і іншыя арганізацыі, якім даручана ажыццявіць наказы, зрабілі гэта ў вызначаным тэрміне і, зразумела, як найбольш сумленна. Калі радны глыбока пераконаны, што мае рацыю, што канкрэтны наказ выбаршчыкаў павінен быць выкананы і ведае як павінен гэтага дабіцца, — ніякія бюракратычныя бар'еры не могуць яму ў гэтым перашкодзіць.

Здараецца, зразумела, што мясцовая рада не мае фонду, скажам, для пабудовы святліцы, ці рамонту дарогі. Дык менавіта тут з «выручкай» раднаму павінна прыйсці грамадскасць, жыхары дадзенай мясцовасці. З іх дапамогай справы, якія раней, здавалася, былі невырашальныя, можна паспяхова вырашыць.

Як жа важна таксама, каб паміж раднымі і выбаршчыкамі наладзіўся блізкі кантакт, стварыліся ўзаемны давер і пашана. А ў ніякім выпадку нельга дапускаць найменшых праяўленняў фармалізма ў працы раднага. Дрэнна, калі абяцае ён інтэрвеніраваць у справе, скажам, скаргі грамадзяніна, а потым перадасць яго просьбу адпаведнай установе, каб потым абыякава паведаміць прасіцеля аб адмоўным адказе. У гэтым выпадку радны не выконвае абавязку прадстаўніка народнай улады. Аднак выбаршчыкаў не ашукаеш. Беспамылкова акрэсліваюць яны, дзе сядзіць фармалізм, а нават ілжывасць. І вось аўтарытэт раднага раптоўна падае, знікае вера ў яго як выбранніка народа.

Дабразычлівыя і ўважлівыя адносіны да людзей зусім не азначаюць, што радны павінен сыпаць абяцанкамі. Трэба добра сарыентавацца ў сутнасці справы. Гэтага менавіта патрабуюць выбаршчыкі ад свайго раднага. Калі сарыентуецца ён у праўдзівасці справы, тады не павінен шкадаваць сіл, каб выканаць яе. Калі ж просьба ці скарга беспадстаўна, трэба сказаць аб гэтым прасіцелю шчыра, проста і адначасова тактоўна, тлумачачы адмоўны адказ — людзі гэта заўсёды зразумеюць.

Радны не павінен чакаць, пакуль да яго прыдуць выбаршчыкі. Павінен пайсці да іх сам. Павінен лепш пазнаць жыццё іх, дапамагаць ім. Трэба, каб заўсёды, у кож-

(Працяг на стар. 2)

Эдзі Агняцвет

## Хто тваё першае дзіва?

Ты пачынаеш свой першы,
Свой радасны дзень.
Хто твая першая песня
І першы прамень!

Хто тваё першае дзіва,
Тваё адкрыццё?
Хто твая першая казка,
Любоў і жыццё?

Хто недаспіць,
каб спакойна,
Маленькі, ты спаў?
Хто чалавека гадуе
Для Міру,
для спраў?

Зоркай ты свеціш у хаце,
Сонца тваё гэта —
Маці!
Маці і ў шчасці, і ў горы
Будзе цябе саграваць.
Вырасцеш —
будзеш Радзіму
Імем яе называць!

ЗА ТЫДЗЕНЬ

1. В. Швед: КЛЯТВА Ў БЕЛАВЕЖЫ.
2. С. Яновіч: БЕЛАРУСКАЯ КАР'ЕРА.
3. Ул. Паўлючук: СТОАСАБОВАЯ СЯМЕЙКА.
4. БЕЛАРУСКІЯ ГЕРОІ.

Рэфлексіі ў «Днях»

## НЯМА ПЕРШЫХ

Не ведаю, адкуль яна ўзялася такая з'ява, але ведаю, што ў так званым тэрэне адзінай формай «культурнага жыцця» і «культурнай працы» з'яўляецца «выставіць штучку». Што гэтая «штучка» бывае часта без густу і хутчэй плакаць над ёй, чым смяяцца — гэта ўжо віна... няхай будзе штучкі. Не ведаю, чаму «штучкі» так прыняліся, а іншыя формы працы — не. Ведаю, што Ваяводскі дом культуры ў Беластоку праводзіць нямала так зв. «шкаленяў» у розных формах культурнай дзейнасці. Нямала людзей карыстае з навукі. Ды чамусьці яна ідзе ў лес. І ў далейшым непадзельна царствуюць «штучкі». Мы хвалімся драмгурткамі, а варта ўзяцца і за іншае. Тым больш, што беларусы — народ здольны, а якраз сярод беларусаў найбольш назіраецца застой у культурнай дзейнасці.

Маем Дні асветы, кніжкі і друку і традыцыйна ўжо ў гэтыя дні паказваем, што найлепшае. Найлепшыя калектывы, найздальнейшыя людзі прыязджаюць у Беласток, выступаюць на вялікіх сцэнах перад знаўцамі. Сярод іх няма калектываў з тэрыторый, на якіх жывуць беларусы. Неяк сорамна бывае. Ці ж сярод беларусаў не знайшлося б лепшых?

У «Днях», напрыклад, адбыліся ваяводскія элімінацыі чытальніцкага конкурсу 1000-годдзя, аб'яўленага Міністэрствам асветы. Я прагледзела ў Кураторыуме, як прадстаўляецца ўдзел беларускіх школ у гэтым конкурсе. З жалем пішу — паветы Гайнаўскі, Бельскі, Сямяціцкі стаяць на канцы па колькасці вучняў, якія ў пачатковых школах прымаюць удзел у конкурсе. А трэба ведаць, што конкурс мае развіваць вучня, адкрыць перад ім краіну ўласную і свет, навучыць яго адвагі.

Справа другая адносна конкурсу. У ваяводскіх элімінацыях быў найлепшы прадстаўнік кожнага агульнаадукацыйнага ліцэя з ваяводства. Дарма толькі шукала таго найлепшага з нашых узорных ліцэяў з Бельска і Гайнаўкі, свае месцы яны аддалі без бою.

З большай радасцю адзначаю тут Педагагічны ліцэй у Бельску, які, як ведаем, з'яўляецца напалову беларускім. Ліцэй прадстаўлялі дзве вучаніцы: Галіна Крыньская і Вера Малішэўская — полька і беларуска. І хоць рэгулямін кажа, што можа быць толькі адзін прадстаўнік, Педагагічны ліцэй адваяваў два месцы, бо і вучняў здольных мае шмат і па-праўдзе гэта ж падвойны ліцэй: і польскі і беларускі. У Кураторыуме паблажліва ўсміхаюцца і... цешацца з гэтага.

Таксама ў «Дні» выступала восем тэатраў паэзіі, але і тут ніводзін, хоць бы слабейшы, не быў з нашых. Нават няма працуючага ў беларускім асяроддзі тэатра паэзіі. А вялікая шкода. Вядома ж агульна,

(Працяг на стар. 2)

# ★ ГАВОРАЦЬ ФАТАГРАФІІ ★

# ДАРОГАМІ ВАЙНЫ

## 5 УКЛАД БЕЛАРУСКАГА НАРОДА У РАЗГРОМ ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ




Фашысцкая тэхніка, разбіта войскамі Савецкай Арміі ў раёне гор. Бабруйска.



Уладзімір Анічэнка (ураджэнец Хацімскага раёна, Магілёўскай вобласці) быў партызанам атрада «Эда» ў Чэхаславакіі.



Аляксей Кандрацёнка з вёскі Крошкі, Гарадоцкага раёна, Віцебскай вобласці — удзельнік руху супраціўлення ў Францыі.



Выступленне народнай артысткі СССР Ларысы Александроўскай перад байцамі — франтавікамі.





У партызанскіх атрадах Беларусі ваявалі шматлікія прадстаўнікі народаў еўрапейскіх краін: палякі, чэхі, славакі, харваты, румыны, французы і іншыя. На здымку вы бачыце былога партызана брыгады «Смерць фашызму» французскага інжынера — будаўніка Марселя Сазі (другі злева), які сустрэўся са сваім камандзірам, дырэктарам Мінскага аўтазавода І. Дзёміным.

Камандзір гвардзейскага танкавага палка С. Ціханчук уручае медаль «За абарону Сталінграда» гвардыі старшыне медыцынскай службы (ўраджэнка горада Оршы), якая вынесла з поля боя 40 раненых танкістаў.

Ноч цёмная, пад нагамі балота, паветра загушчанае пахам вясны.

Спяшаюся. У нос удараецца кіслы пах свінячага гною. Значыць, недалёка ўжо вёска. Гэта Катлы. Выбягаю на нараўскую дарогу. Пара! Мімавольна кладу на грудзях паспешлівы крыж і робіцца мне сорамна.

«Эх, ты, камуніст!» —лаю сам сябе і прыпамінаю, што бацька заўсёды хрысціўся, калі пачынаў сяўбу збожжа. Але маё зерне — незвычайнае, яно бы ў казцы, залатое, зачараванае сілай жыватворнай. Хай ляціць ды калосіцца праўдай аб тым, на што ўрад выдае сялянскія падаткі, аб шарварку, аб долі-нядолі мужыцкай, хай клічуць галодных і пакрыўджаных на першамайскія паходы, мітынгі, масоўкі, хай родзяць, падымаюць і замацоўваюць веру ў сілу простых людзей, цесна згуртаваных у адной партыі!

Лістоўкі хутка расплываліся ў начной цемры, і я страціў іх з вачэй. Падышоўшы некалькі крокаў, прысядаў я на дарозе, каб лепей бачыць, выкідаў некалькі лістовак і зноў ішоў далей. І так аж да масціка, што перакінуты цераз рэчку Белая — кіламетраў тры за Катламі. Зmoраны вярнуўся дамоў. Ціха, як злодзей, пракраўся ў хату. Мачаха аднак пачула.

— Дзе цябе чэрці носяць! — загаласіла, падняўшы з падушкі раскудлачаную галаву.

— Быў на вечарынках, — адказаў я і зваліўся на сваю пасцель. Сон аднак не прыходзіў.

— Чаго хочаш? — адазваўся бацька. — Ён жа кавалер, пагуляць хоча.

— А заўтра не дабудзішся яго да працы. Толькі глядаўся б за гатовым хлебам.

Балюча кранали мяне гэтыя словы, але я маўчаў. У вачах мільгацелі чырвоныя лістоўкі, якіх там, пад Катламі, на сваіх крыллях з месца на месца пераносіў вецер. У думках цешыўся я, што вось заўтра людзі выедуць у поле, пазбіраюць гэтыя лістоўкі, будуць чытаць, спрачацца, перададуць з рук у рукі, з вуснаў у вусны, і словы наладаваныя порахам расплывуцца, як вячэрняе зарыва. Хацелася мне сустрэцца з чалавекам, які знайшоў «маю» лістоўку, хацелася паглядзець яму ў твар, паціснуць рукі.

# У рэдакцыю штотыднёвіка „Ніва“

**ў сувязі з працай др-а Ежы Вісьнеўскага надрукаванай у «Навуковым Зборніку»**

Праца др-а Ежы Вісьнеўскага, якая гаворыць пра гісторыю вясковых пасяленняў у Беластоцкім ваяводстве, даволі вычарпальна абмеркавала тэму. Аднак з прычыны недахопу дакладных археалагічных даследванняў не змагла больш поўна расказаць аб гісторыі пасялення X—XIII стагоддзяў, асабліва калі разыходзіцца пра падабенства беларусаў, якія займалі ўсходнюю частку Беластоцкага ваяводства, ідэнтыфікаваных раней археалогамі з дрыгавічамі, аўтар ставіць пад сумненне лічачы, што трэба было б гэтую этнічную групу беларусаў спалучыць, хутчэй за ўсё, з жыхарамі сярэдняга Буга. Раіць тады правільна, каб пачакаць на далейшыя вынікі даследванняў. Я дадам — таксама і даследванняў на савецкім баку.

Далей аўтар гаворыць аб праблемах сужыцця абедзвюх нацыянальнасцей: беларускай і мазавецкай. Праходзіла яно вельмі згодна і адбылося нават перамяшанне насельніцтва, але толькі пачынаючы ад XIII стагоддзя. У сувязі з тым, што ятвягі, прусы, мазаўшане, беларусы і літоўцы вялі барацьбу, спакойныя пасяленцы былі вымушаны (таму што найбольш пацярпелі) шукаць апекі ў магутных наднёманскіх і надбужанскіх гарадоў. Толькі ў XIV і XV стагоддзях адбываецца стабілізацыя ўлады на гэтай тэрыторыі, калі Падляшша трапляе пад мазавецкае панаванне. Мазавецкія князі каланізуюць гэтыя землі пры дапамозе дробнай шляхты. Для пацверджання гэтага факту аўтар падае назвы вёсак перанесеных з Мазоўша, як, напрыклад, Вышаград, Плоцк і іншыя.

А літоўскія князі каланізавалі пры дапамозе баяраў і беларускіх сялян. Мэтай гэтай каланізацыі было паўстрыманне мазавецкай каланізацыі і атрыманне матэрыяльнай і палітычнай карысці. У пэўнай ступені мэта была асягнута.

Далей аўтар гаворыць аб надзяленні зямлёю і аб абавязках паасобных груп людзей на тэрыторыі Беласточчыны, робіць гэта вельмі дакладна і з вялікім веданнем матэрыялу, спалучаючы палітычныя і гаспадарчыя справы ў неразрыўны саюз. Гэтая праца вельмі вартасная і кожнаму жыхару Беласточчыны абавязкова патрэбная, паколькі ён цікавіцца справамі свайго ваяводства. Шкада толькі, што з-за недахопу месца не магла шырэй раскрыць паасобныя праблемы, якія закранаў аўтар, не падала стану археалагічных даследванняў на гэтай тэрыторыі і спрэчных спраў адносна пераплятання ўплываў паасобных этнічных груп і іх культур, іх узаемаўплываў. Добра было б, каб выйшла з друку на гэтую тэму нейкае шырэйшае апрацаванне.

Але нягледзячы на ўсё гэта праца др-а Ежы Вісьнеўскага дае шчырае задавальненне. Чытаецца лёгка. Яна падае сістэматызаваныя веды, пабуджае зацікаўленасць гісторыяй гэтай зямлі.

**МІХАЛ ПАШКУН**
Ганёндз

# СУСТРЭЧА Ў ЧАС ЧЫНУ



**На трыбуне ў час мітынгу кандыдаты па паслоў: сакратар КЦ ПАРП Уладзіслаў Віха (першы злева), сакратар КВ ПАРП Аркадзіюш Лашэвіч, селянін Антоні Леўка і журналіст «Беластоцкай газеты» Крыстына Маршалэк, кандыдаты на радных ВРН: старшыня ВРН Стэфан Жмійка, селянін Янка Казберук і кандыдат па раднага ў ПРН старшыня ПРН у Беластоку Ян Вальчак, кандыдат на раднага ГРН старшыня ГРН у Юшкавым Грудзе Мікола Міруць.**

Праз хмызнякі, зараслі і лес будзе пралажана новая дарога, якая спалучыць Новую Волю з Сушчаю. Па ёй пойдуць аўтобусы з Міхалова праз Сушчу і Ляшукі ў Нараўку, у Гайнаўскім павеце. Новая дарога прыблізіць 14 вёсак у Беластоцкім павеце з горадам Беластокам, аблегчыць даезд сялянам ад вёскі да вёскі. Менавіта таму жыхары грамад Юшкавага Груда і Міхалова шмат укладаюць грамадскай працы ў час яе пабудовы. У гонар выбараў працы тут праходзяць больш інтэнсіўней. Асабліва многа людзей працавала 6 мая, калі туды прыязджалі на спатканне з выбаршчыкамі кандыдаты на паслоў і радных. У час мітынгу ўдзельнікі грамадскага чыну (было іх блізка 700 асоб) з вялікім зацікаўленнем выслухалі выступлення сакратара Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі таварыша Уладзіслава Віхі, а таксама прапановы некаторых радных.

Тэкст і фота:
**М. ХМЯЛЕЎСКІ**



Сяляне і школьнікі з сярэдніх школ у Міхалове ў час працы.



Удзельнікі мітынгу.

# ГЭТА ВАЙНА

**У 1964 г. мы друкавалі ўспаміны Івана Шыбакова аб першых днях вайны на лініі абароны ў раёне Слох (Сямяціцкі павет). Іван Шыбакоў камандаваў там адным з дотаў. У гэтым раёне знаходзілася і яго сям'я. Нядаўна з далёкай Кастрамской вобласці прыйшоў у нашу рэдакцыю ліст сына Івана Шыбакова — Юрыя Шыбакова. Ён прыслаў нам свае ўспаміны з тых дзён, калі разам са сваёй маці і сястрычкай дзевяцігадовым юнаком прайшоў па нашай зямлі жах вайны. Прапануем іх увазе нашых чытачоў.**

*

Помніш, мама? Мне тады было дзевяць год. Жылі мы ў вёсцы Слохі, у трох кіламетрах ад ракі Буга. Па Бугу праходзіла граніца з гітлераўскай Германіяй. Тата служыў афіцэрам, ён быў камандзірам дота. Служыў ён тут другі год, восьмы месяц з ім былі мы.

22 чэрвеня раніцай над вёскай зараўлі самалёты. Тата пабег ва ўмацаванне. Два дні ты, я і Валечка сядзелі ў зямлянцы ля хаты.

Доты, у адным з якіх быў тата, ланцужком акружалі нашу вёску з усходу. Фашысты наступалі з захаду, праз вёску. Доты аказвалі вялікае супраціўленне, было падбіта шмат аўтамашын, немцы лютавалі і на трэці дзень падпалілі вёску, адразу ў некалькіх месцах.

Было суха, гарэлі ўсе сто дваццаць двароў. Пад кулямётным абстрэлам мы разам з усімі ўцякалі па балоце, у цябе на руках была Валечка. Ты часта спатыкалася, падала, уставала, і мы беглі зноў. Загінулі тады многія.

А на наступны дзень фашысты сабралі ля ракі ўсё насельніцтва вёскі, выбралі маладых мужчын і расстралялі. Мы сядзелі над ровам, непадалёк Буга. З намі былі яшчэ дзве сям'і — таксама сем'і афіцэраў. Карнікі даведаліся пра нас, падыйшлі, перад намі паставілі кулямёт. Ты прыціснула мяне і Валечку да сябе. Афіцэр, які пад'ехаў, адмяніў расстрэл.

Некаторыя ўцекачы захапілі з сабой кароў. Каровы хадзілі тут жа, ля ракі, і часам добрыя людзі давалі нам малака.

Праз некалькі дзён мы атрымалі вестку з Раманаўкі — гаспадары кватэры, у якой мы жылі за тры месяцы да пачатку вайны, запрашалі нас да сябе. Гэта было вельмі дарэчы: Слохі згарэлі, не было дзе жыць. Перад намі быў дзесяцікіламетравы шлях праз палі, лес і горад Сямяцічы, па слядах толькі што прайшоўшай вайны.

Мы шлі, і ты, якая сама ўпершыню сустрэлася з вайной, вучыла мяне асцярожнасці. Ты гаварыла аб тым, што ў ніякім выпадку нельга кранаць ляжачых на дарозе рэчаў. Яны маглі быць замініраваны.

Потым пачаліся доўгія дні акупацыі. Ты шыла. Я пасвіў каровы. Ты шыла кашулі, нагавіцы, пінжакі — усё, што табе заказвалі. За работу табе прыносілі хлеб, сала, бульбу. Ты ніколі не таргавалася. Хто колькі дасць. Я пасвіў па найму.

У лесе было шмат зброі, патронаў, снарадаў. Ты мяне пераконвала не кранаць іх, але я быў хлапчук, як і шмат з тых, што пасвілі жывёлу разам са мной. Зброя нас страшыла і цікавіла. Шмат разоў узрывалі гранаты. Снарады мы закладвалі ў кастры.

Аднойчы мы ўтрая — я і два Антошкі, суседнія хлапчукі — узарвалі бранебойны патрон на камяні недалёка ад нашай хаты. Ты і жыхары суседніх хат выбеглі на вуліцу. Мяне параніла ў шыю супраць горла і ў твар пад вокам. З шыі моцна ішла кроў. Я зняў майку і закрыў ёю рану. Ты йшла з дзягай, але калі ўбачыла кроў, злякалася і не ведала, што рабіць.

Восенню сорак першага года фашысты рухаліся на ўсход, і яны нават дазволілі адкрыць школу. Ты хацела, каб я вучыўся, і я пайшоў у другі клас. Аднойчы я не меў што адзець на ногі, і ты аддала мне свае туфлі на паўвысокім абцасе. Другі клас я закончыў, а дзве наступныя зімы сядзеў побач з табой, памагаў табе шыць. Школу не адкрывалі.

Мы не думалі з табой, што нам цяжка. Цяжка было ўсім. Недзе быў наш тата. Там, за лініяй фронту, былі сваякі.

Асабліва цяжка было нам, калі фашысты ўцякалі на захад. Шмат жыхароў жандары вывозілі ноччу няведама куды.

У лесе жылі партызаны. Партызаны заходзілі да нас. Аднойчы партызаны расстралялі восем здраднікаў з трох сем'яў. Нікому не хацелася хаваць іх целы, і яны, акрываўленыя, ляжалі — кожнае там, дзе быў выкананы прысуд партызан. Ночы былі асабліва цёмныя. Недзе крычаў пугач — здавалася, крычыць самая смерць.

Фронт набліжаўся. Цябе ў любы час маглі ўзяць жандары. Цяпер ты часта цэлымі днямі шыла ў акопе, за хлявом, у жыце. Аднойчы жандары пад'ехалі на машыне, калі ты была на абедзе. Яны йшлі ў хату, ты ўзяўшы памыйнае вядро, пайшла ім насустрач. Прыйшла на двор, а адтуль у жыта.

Іншым разам машына спынілася супраць нашай хаты, ноччу. Ты акамянела, не магла ўстаць. А раніцай да нас прыйшоў солтыс, узяў Валечку на калені, прыціснуў мяне да сябе: «З цяжкасцю ўгаварыў жандараў... вас ужо не было б у жывых».

Тры гады акупацыі. Цяжка даводзілася. Затое колькі было радасці, калі прыйшлі нашыя салдаты! Мы чакалі гэтай сустрэчы! Гэта быў самы шчаслівы міг нашага жыцця.

Два тыдні спадарожнымі машынамі, таварнымі цягнікамі мы дабіраліся дамоў, на радзіму. Радзіма! Я не помніў пад сабой ног, калі бег ад вёскі Н-Шанга да маёй мілай вёскі Барадзіно.

Радасць сустрэчы. Многа было радасці. Многа і гора. Ішла вайна. Многіх не было ў жывых. Наш калгас даў нам карову. Людзі далі вопратку. Ты пачала працаваць свінаркай, я пайшоў у трэці клас.

Летам мы з Валяй — цяпер ёй было ўжо пяць год — памагалі табе. Аднойчы да нас падыйшоў пісьманосец, даў тэлеграму ад таты. Тэлеграма была адрасавана дзеду, тата пытаўся, дзе яго сям'я.

1944 год — год вызвалення ад фашысцкай акупацыі. Гэта першы год нашага шчасця. Цяпер іх за намі дваццаць. З дваццацігоддзем шчасця, мама!

**ЮРЫЙ ШЫБАКОЎ**

# СВАЮ СПРАВУ ТРЭБА ЗРАЗУМЕЦЬ

У 1961 годзе апрацавана пяцігадовыя гаспадарчыя планы развіцця вёсак Пасынкаўскай грамадскай рады, што на Бельшчыне. У гэтых планах галоўную ўвагу ўдзялялася справам паляпшэння якасці пасяўнога матэрыялу ў гаспадарках. Таму не без прычыны падкрэслена рашаючую ролю **абмену пасяўнога матэрыялу** для павышэння ўраджайнасці. Абмен — гэта найбольш танны і эфектыўны спосаб павышэння ўраджайнасці. На жаль, па-сённяшні дзень многія гаспадары яшчэ не разумеюць таго!

Сляпая пераконанасць **у** значэнне **толькі** гною ў многіх пераўтвараецца цяпер у сляпую пераконанасць значэння мінеральнага ўгнаення без аглядкі на тое, якім насеннем (зернем) сеем і чаго яно вартае. — От, абы зерне і гной!

Быў у Пасынкаўскай грамадзе аграномам — п'яніца Янчыла. Засталася па ім камфартабельная аграномоўка з пакоямі, лазенкаю, кабінетамі — пуста і ціха ў іх. — Ой жа, патрэбны сюды добры аграном, моцна патрэбны!

Людзі тут не такія тупыя, як здавалася б. Калі зразумеюць сваю справу, умеюць задбаць пра яе. Задбалі пра дарогі, пабудавана іх тут шмат. Напрыклад, пабудавалі дарогу з Кожына ў Ступнікі, дзе заўсёды цяжка было праехаць, нават летняй парою. Выбрукавалі вуліцу ў Трашчотках, кавалак дарогі ад Сакоў да Зубаўскага гасцінца, акапалі дарогу даўжынёю ў 900 метраў з Пасынак у напрамку Локніцы, а ў самой Локніцы ёсць ужо брук і т. п. Гаворачы аб гэтым, значыць, аб будове дарог, маю на ўвазе той вялікі ўклад грамадскай працы, якую чынам выканала мясцовае насельніцтва. Няшмат ёсць на Бельшчыне такіх аколіц, як пасынкаўская, дзе так многа папрацавалі людзі для агульнага дабра — пры будове сваіх вясковых дарог.

Тут штогод чынам давозяць вугаль для школ, бібліятэкі, пункту аховы здароўя. Грошы, якія давялося б растраціць на аплату гэтых давозаў, прызначаюцца, між іншым, на электрычнае асвятленне вясковых вуліц. Загараецца вулічныя лямпачкі ў Катлах і Трашчотках. Пасынкі, як грамадская сталіца, маюць ужо неонавае асвятленне і ладны кавалак прыгожага тратуара — проста, як у горадзе!

Ёсць адна чатырохкласная школа, знаходзіцца яна ў Піліпках — у прыватнай хаце. Другія школы маюць уласныя будынкі, адрамантаваныя амаль усе. Летась, пэўна, адбудзецца рамонт школы ў Катлах. Пры Зубаўскай школе пабудавалі новы гаспадарчы будынак, упарадкавалі прышкольны пляц.

Шмат грамадскай працы чынам унеслі гаспадары пры будове малачарняў у Саках, Суботцы, Кожыне. Вартасць гэтага чыну ацэньваецца на 150 тысяч злотых.

У вёсках усур'ёз задумоўваюцца над правядзеннем, так званай, грамадскай камасацыі зямлі. Асабліва датычыць гэта Мякішаў, Локніцы, Белай, дзе яшчэ не адбылася камасацыя і не вядома, калі яна адбудзецца. Грамадская камасацыя абазначае ўзаемную дагаворанасць гаспадароў данай вёскі наконт падзелу зямлі на «калоніі». Першы раз такая камасацыя адбылася ў мінулым годзе ў суседняй Гайнаўшчыне — у вёсках Капіціаншчына і Ахрымы. Там цяпер людзі ўжо не маюць клопатаў, зямлю падзялілі на вялікія кавалкі — «калоніі». За прыкладам тамтых вёсак хочуць зрабіць тое самае ў сябе гаспадары некаторых вёсак у пасынкаўскай ГРН. Думаем, што ўдасца ім гэта не горш, чым ахрымаўскім гаспадарам. Зрэшты, варта паехаць туды, пагаварыць, папытаць...

Такая наша парада. **(ся)**

## Патрэбна новая малачарня

Надзя Гацута працуе малачаркаю ў Стараберазове ўжо ад восені. За мінулы месяц прыняла яна ад стараберазоўскіх гаспадароў 11.132 літры малака. Вясною і летам будзе больш, да тысячы літраў штодзень.

Малачарскі пункт знаходзіцца проста ў сенцах хаты, а ў каморы — склад канцэнтраваных кармоў для 66 дастаўшчыкаў малака. Словам, цесната цяснот! Прыдалося б пабудаваць талковы будынак — мураваны, чысты, прасторны. Аб гэтай справе трэба пагаварыць на вясковым сходзе, тым больш, што ўжо ёсць вопыт з будовую новай крамы, дзе шмат папрацавалі грамадскім чынам многія мясцовыя людзі. Краму пабудавалі, цяпер хіба чарга на сваю малачарню!... (ся)

## Гразкі кавалак

Дарога ад Новаберазова да Навакорніна брукаваная. Але не даязджаючы да Навакорніна ёсць невялікі, мо' дзесяціметравы кавалак незабрукаванай дарогі. Няўжо пакінулі гэта на памятку аб старых, разбітых і гразкіх дарогах? (ся)

